# КАНДЫДАТЫ ФЭН — ГЭТА ТВАЕ КАНДЫДАТЫ!

Ніва
БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК
№ 49 (928) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 9 СНЕЖНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.

9 снежня адбудуцца выбары ў рады нарадовыя. Адбудуцца яны ў знамянальны час. У час паскорання развіцця і мадэрнізацыі нацыянальнай гаспадаркі. У час адчувальнага паляпшэння жыццёвых умоў працоўных. Гэты час стварылі апошнія гады, праграма VI З'езду ПАРП.

I Краёвая партыйная канферэнцыя выказалася за рашучае і паслядоўнае працягванне праграмнай лініі VI З'езду. Праграма гэта адпавядае патрабаванням народа. Рашэнні канферэнцыі сталі і выбарчай платформай Фронту адзінства народу ў выбарах у рады нарадовыя, сталі праграмай усіх нас, грамадзян ПНР. І ўсе мы будзем ствараць яе канкрэтны, матэрыяльны і духовы, воблік. Ад нашай працы, ад нашых пошукаў, ад нашай ініцыятыўнасці будуць залежаць вынікі нашых намераў.

І ёсць у нас асновы да аптымізму. Гаспадарнасць стала нашым дэвізам. Яму ў сваёй дзейнасці партыя адводзіць важную ролю. Ён з'яўляецца таксама рухаючай сілай дзеяння дзяржаўных улад і грамадскіх арганізацый.

Перад асабліва важнай роляй сталі гмінныя, гарадскія, паветовыя і ваяводскія звенні дзяржаўнай улады і адміністрацыі. Умацаванню іх, удасканальванню дзейнасці і пашырэнню правоў і служаць апошнія змены ў арганізацыі і функцыянаванні рад нарадовых, а таксама дзяржаўнай адміністрацыі ў паветах і ваяводствах. Гэтыя змены пашырылі таксама ролю радных і павінны спрыяць павелічэнню іх аўтарытэту.




Партыя лічыць, што рады нарадовыя і мясцовыя звенні дзяржаўнай адміністрацыі павінны больш паспяхова выкарыстоўваць усе магчымасці дзеля гарманічнага і дынамічнага развіцця краіны, а таксама паасобных рэгіёнаў.

Асабліва неабходна:

● павелічэнне сельскагаспадарчай прадукцыі і харчовай прамысловасці;

● далейшае развіццё дробнай вытворчасці і паслуг для насельніцтва;

● упарадкаванне рознічнага гандлю, гастраноміі, турыстычных паслуг, лепшая арганізацыя адпачынку працоўных і заспакаенне іх культурных патрабаванняў;

● праграма жыллёвага будаўніцтва, мадэрнізацыя гарадоў і вёсак, дбанне аб іх эстэтыцы (ліквідацыя саламяных стрэх);

● лепшая каардынацыя і ўдасканальванне інвестыцыйных працэсаў;

● паслядоўная дзейнасць у пытанні выхавання маладога пакалення ў духу патрыятызму і інтэрнацыяналізму;

● усебаковая дзейнасць у напрамку паляпшэння аховы здароўя грамадства, а таксама арганізацыя дзейснага прадухілення хвароб;

● пастаянныя клопаты аб умацаванні сям'і, арганізацыя лепшай дапамогі і апекі над старэйшымі людзьмі.

Неабходна рашуча змагацца з марнатраўствам грамадскай маёмасці і з праявамі бюракратызму, з тэндэнцыямі некаторых звенняў адміністрацыі да аслаблення служэбнай ролі перад грамадствам.

Гэтыя і шмат іншых, не менш істотных заданняў, якія паставіла перад радамі і адміністрацыяй партыя, акрэсліваюць і асаблівае значэнне выбараў. Выбарчы акт, які споўнім 9 снежня, будзе мець вялікі ўплыў на ўмацаванне дзяржавы і фарміраванне сацыялістычных грамадскіх адносін, на стварэнне найлепшых умоў для паслядоўнага ажыццяўлення ўсенароднай праграмы VI З'езду нашай партыі.

# ВЫНІКІ ЗАЛЕЖАЦЬ АД НАС



**(РАЗМОВА З МІКАЛАЕМ САМОЦІКАМ — СТАРШЫНЁЙ ГП БГКТ)**

Наша размова з старшынёй Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства Мікалаем Самоцікам — кандыдатам у Ваяводскую раду нарадовую ў Беластоку — адбылася ў момант, калі ён рыхтаваўся да сустрэчы са сваімі выбаршчыкамі. На парадку дня стаяла таксама справа падрыхтоўкі матэрыялаў на чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ.

**— Таварыш старшыня, на якіх напрамках БГКТ канцэнтравала сваю працу ў апошні час?**

— Наша таварыства з'яўляецца састаўной часткай Фронту адзінства народу, і ўсе яго члены — сяляне, рабочыя, інтэлігенцыя, моладзь — актыўна ўдзельнічаюць у гаспадарчым, культурным і грамадскім жыцці беластоцкага рэгіёну, усёй нашай краіны. Мы заахвочвалі членаў нашай арганізацыі да павышэння ўраджайнасці і павелічэння гадоўлі ў іх гаспадарках, да ўдзелу ў конкурсах „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная" і „Жыхары свайму гораду", папулярызавалі грамадскія чыны на карысць асяроддзя пры рамонце і будове дарог, пры пасадцы дрэў, будове святліц і іншых аб'ектаў культурнага жыцця. Гурткі БГКТ у Гурным, Старым Корніне, Чыжах і Сухавольцах ў Гайнаўскім павеце, у Дубяжыне і Плёсках у Бельскім, у Гарадку, Паўлах, Меляшках і Новай Волі ў Беластоцкім, у Сухінічах у Сакольскім, Мілейчыцах у Сямяціцкім, у гарадскім аддзеле ў Беластоку і шэраг іншых нашых звенняў развівалі актыўную культурную дзейнасць. Фэстыны, конкурсы і агляды самадзейных драматычных калектываў БГКТ сталі значнымі падзеямі ў культурным руху Беласточчыны. Асаблівую ўвагу наша арганізацыя звярнула на папулярызацыю ведаў аб СССР і ўнесла вялікі ўклад у адзначэнне Дзён Беларускай ССР на Беласточчыне. Некалькі тыдняў таму назад закончылася святкаванне 30-годдзя Людовага Войска Польскага, у якім актыўны ўдзел прынялі Галоўнае праўленне, аддзелы і гурткі БГКТ. Зразумела, усё гэта наша таварыства праводзіла супольна з іншымі грамадскімі арганізацыямі Беласточчыны.

**— Якія заданні будуць стаяць у бліжэйшы час перад БГКТ?**

— Усё наша грамадства рыхтуецца да ўрачыстага адзначэння 30-годдзя Народнай Польшчы. У яго ўнясе свой уклад

Працяг на стар.4



*Беласток расце ўгару.* *Фота Я. Цялушэцкага*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"

**Імем генерала А. Вашкевіча ● Як Цярэшка Калабок заваяваў Польшчу ● Адрынкі ● «Раманс» з Тарашкевічам ● Новае аб Міхалу Федароўскім ● Сукенкі на свята ● Весткі з Палічнай, Старога Корніна, Баб'яй Гары, Гарадка, Гародчыны, Парцава, Азяблаў і інш. ● Песня: „W wojsku nie jest źle".**

# ПРА ЖНІВО ВОСЕННЮ

Нядаўна пленарнае пасяджэнне паветовага камітэта партыі ў Гайнаўцы было прысвечана жніўнай кампаніі 1973 года.

Цяпер пра жніво?!

Такія пытанні ўзнікалі не толькі ў мяне. Пасля я пераканаўся, што мы памыляемся. Пра такую істотную справу ў жыцці вёскі, як уборка збожжа, бульбы і іншых сельскагаспадарчых пладоў, гутарыць ніколі не запозна, ні зарана, бо калі добра ўдумацца, то ніколі невядома, ў які момант гэтая акцыя пачынаецца і калі яна канчаецца. Кожны месяц тут важны. Возьмем хаця б лістапад. Палі апусцелі, усюды сумна і холадна. Але ў лістападзе ёсць час, каб на будучы год падрыхтаваць мінеральныя ўгнаенні, якія цяпер найтаннейшыя. А гэта ў Гайнаўскім павеце справа амаль асноўнага парадку, бо сяляне тут па прымяненню мінеральных ўгнаенняў усё яшчэ адстаюць ад сваіх сяброў па прафесіі з іншых раёнаў Беласточчыны. Дык ці рыхтуючыся да высакаякаснага ўгнаення поля, не рыхтуемся да жніва?

Жніво ў Гайнаўскім павеце прайшло даволі спраўна, як ніколі дагэтуль. Бачна папраўілася спраўнасць і якасць паслуг ў сельскагаспадарчых гуртках і машынна-трактарных базах. Выкарыстанне камбайнаў, снопавязалак і касілак было ў сярэднім двойчы вышэйшае, чым у мінулым годзе. На палях сялян працавала 98 працэнтаў усёй сельскагаспадарчай тэхнікі, якая ў даны момант знаходзіцца на тэрыторыі Гайнаўскага павету. Такой высокай спраўнасці дагэтуль не было.

Працяг на стар.4

 

Пачатак на стар. 1

# Пра жніво восенню

Гаворачы аб найлепшых, аб тых, хто асабліва самаахвярна памагаў сялянам, трэба сказаць пра кіраўніцтва і амаль цэлыя калектывы:

— міжгурткоўскіх машынна-трактарных баз у Курашаве, Кляшчэлях, Саках, Моры і Махнатым;

— сельскагаспадарчых гурткоў з Навасадаў, Палічнай, Гарадочна, Дубін, Лянева, Жукоў і Міклашэва;

— вясковых спулдзельняў прадукцыйных у Васьках, Старакорніне, Макаўцы і Тыневічах;

— ПГР у Новаберазове і ПОМ у Нарве.

На падзяку і пахвалу павятовага камітэта партыі заслужыла сельскагаспадарчая служба Кляшчэлеўскай і Дубіцкай гмін, а перш за ўсё таварышы **Малец, Якубоўскі і Чыквін.** Ахвярна і паспяхова кіравалі жніўнай кампаніяй і ўборкай земляплодаў намеснік старшыні прэзідыума ПРН у Гайнаўцы тав. **Вацлаў Цэглярскі** і намеснік старшыні павятовага саюза сельскагаспадарчых гурткоў тав. **Здзіслаў Мінакоўскі.**

Актыўна працавалі маладыя хлебаробы, аб'яднаныя ў гуртках Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі. Як штогод, многія з іх прынялі ўдзел у акцыі „Кожны колас на вагу золата". Тут асабліва адзначаліся гурткі ЗСМВ з Міклашэва і Махнатага.

Пра добрую работу і арганізацыйны ўздым гаворыць таксама і тое, што ў час мінулай жніўнай акцыі рады партыйных арганізацый ва ўстановах і на прадпрыемствах, якія абслугоўваюць сялян, папоўніліся больш чым на 50 новых кандыдатаў у члены ПАРП.

Прыемна і нам пахваліць людзей за добрую працу. Аднак трэба ўказаць пальцам і тых, хто на пахвалу не заслужыў. У Трасцянцы, Новаберазове, Ставішчах, Ляўкове, а таксама ў арэшкаўскай міжгуртковай машынна-трактарнай базе не змаглі на час адрамантаваць усёй тэхнікі, не задбалі, каб кожны трактар меў свайго вадзіцеля, нядбайна распрацавалі планы выкарыстання машын. У вясковых крамах выступаў недахоп найбольш патрэбных тавараў. ГС-ы не змаглі забяспечыць сялян дастатковай колькасцю мяшкоў, што тармазіла скупку бульбы, а гаспадары непатрэбна трацілі час на чаканне ў чарзе на скупачных пунктах.

У гмінах Чыжы, Нараў і Гайнаўка недастаткова паклапаціліся пра тое, каб наладзіць дапамогу гаспадарам, якія не змаглі на час управіцца з уборкай.

І таму пасыпаліся заўвагі, папярэджанні, а нават службовыя пакаранні. Гэта па прынцыпу, што цярпець нядбайнасць шкодна і нельга.

У зале сабраліся тады людзі, якія ў шматзначнай ступені кшталтуюць цяпер аблічча Гайнаўшчыны. Гэта ж актывісты, давераныя прадстаўнікі партыйных арганізацый. Дык сядзелі, слухалі і тое, што чулі, прымервалі да свайго асабістага становішча, да таго, што і як будуць рабіць праз месяц, ці праз паўгода, якія прадпрымуць намаганні, каб наступнае жніво і ўборка земляплодаў прайшлі яшчэ спраўней, каб праз год у час падобнай ацэнкі не апынуліся яны ў спіску гультаяватых і нядбайных, каб заслужыць на пахвалу.

А трэба ведаць, што заданні ўсё ўзрастаюць. Гайнаўшчына намагаецца дагнаць найлепшых у ваяводстве. Дзеля гэтага трэба напружваць усе сілы. Між іншым, неабходна прынамсі ўтрымаць на дагэтуляшнім узроўні тэмпы прыросту ўраджайнасці і развіцця жывёлагадоўлі.

Дык добра, што пра жніво гавораць у Гайнаўцы ўжо восенню, што распрацоўваюць канкрэтныя заданні для вясковых і гмінных партыйных і грамадскіх арганізацый. Гэта абнадзейвае.

**Максім Нурэцкі**

## Беларускія кнігі

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, 1972, стар. 376, цана 5 зл. 40 гр.

Другое выданне вельмі карыснага слоўніка. У ім растлумачана каля 6 тысяч слоў і ўстойлівых словазлучэнняў. Склалі слоўнік Баханькоў А. Я., Гайдукевіч І. М., Шуба П. П. Адрасуецца ён да вучняў сярэдніх школ, але гэта зусім не значыць, што ён не павінен знайсціся ў бібліятэках усіх пачатковых школаў, дзе навучаецца беларуская мова.

Падгайскі Л. П., Словазлучэнне ў беларускай мове, 1971, стар. 192, цана 3 зл. 80 гр.

Навуковае даследаванне беларускага вучонага. Аўтар даў яму падзагаловак „Дзеяслоўна-іменныя словазлучэнні з акалічнаснымі адносінамі". У кнізе аналізуюцца дзеяслоўна-іменныя словазлучэнні з прасторавымі адносінамі і сродкі іх выражэння. На шматлікіх прыкладах аўтар разглядае граматычныя сродкі выражэння часавых, прычынных і мэтавых адносін.

Беларускі фальклор у сучасных запісах, 1973, стар. 304, цана 13 зл. 80 гр.

Сістэматычны навуковы звод твораў вуснай народнай творчасці, запісаных у апошнія гады ў Брэсцкай вобласці. У асноўным гэта традыцыйныя жанры. Большасць твораў публікуецца ўпершыню. Шэраг запісаў мае нотныя прыклады. Складальнік выдання В. А. Захарава.

Лойка А. А., Беларуская паэзія пачатку XX стагоддзя, 1972, стар. 240, цана 9 зл. 40 гр.

Кніга вядомага беларускага літаратуразнаўцы і паэта. Разглядаюцца ў ёй ідэйна-эстэтычны рост і мастацкія пошукі Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, А. Пашкевіч-Цёткі і іншых беларускіх паэтаў пачатку XX стагоддзя. Асаблівую ўвагу вучоны звяртае на даследаванне своеасаблівасці творчасці, метаду, стылю і фальклорнай асновы твораў гэтых пісьменнікаў.

Андраюк С. А., Жыццё, літаратура, героі, 1973, стар. 176, цана 7 зл.

Зборнік літаратуразнаўчых артыкулаў аб лепшых творах беларускай прозы, якія паявіліся ў 1955—1965 гадах. Аўтар — вядомы крытык і літаратуразнаўца — разглядае прозу І. Шамякіна, І. Мележа, Я. Брыля, В. Быкава, А. Кулакоўскага, І. Пташнікава, У. Караткевіча.

Кнігарня імпартных выданняў у Беластоку ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем (з далучэннем рахункаў). Запатрабаванні кіруйце па адрасу:

„Dom Książki", Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)

Пачатак на стар. 1

## Вынікі залежаць ад нас

і ўся наша арганізацыя. Гэтай справе будуць прысвечаны спецыяльныя пасяджэнні Галоўнага праўлення і праўленняў аддзелаў БГКТ. Неабходна мабілізаваць наша асяроддзе да яшчэ больш актыўнага ўдзелу ў развіцці гаспадаркі, да павышэння прадукцыйнасці на сяле і на прамысловых прадпрыемствах. Грамадскія чыны на карысць асяроддзя і павышэнне эстэтыкі вёсак і мястэчак — гэта відавочны выраз замілавання да свайго краю. Будзем імкнуцца, каб у нашых конкурсах песні і аглядах самадзейных мастацкіх калектываў прымала ўдзел як мага большая колькасць людзей, а ў іх рэпертуары знаходзіліся творы, выражаючыя падзяку працоўным за іх добрую работу і ахвярнасць, прыносячыя эстэтычнае задавальненне. Аддзелы, побач з іншымі мерапрыемствамі, правядуць урачыстыя фэстыны, прысвечаныя 30-годдзю Народнай Польшчы. Сістэматычна будзем працаваць над умацаваннем нашых гурткоў, заахвочваць іх да большай ініцыятывы ў грамадскай і культурнай дзейнасці ў сваёй мясцовасці, асабліва ў працы клубаў, святліц і дамоў культуры. Важнай галіной з'яўляецца таксама запіс і выяўленне выканаўцаў вуснай народнай творчасці Беласточчыны. Адважней і шырэй будзем паказваць нашы мастацкія калектывы, і не толькі на Беласточчыне. Словам, год **1974** будзе годам усебаковага ажыццяўлення нашых праграмных заданняў. Эфекты іх будуць пладатворныя, калі ў іх рэалізацыю ўнясе свой уклад кожны член БГКТ. А яны ставяць сваёй мэтай усё тое, што вядзе да лепшага і больш культурнага жыцця кожнага сучаснага чалавека.

Гутарыў **Мікалай Гайдук**

## Патрэбная прафесія

Едучы праз Трасцянку ў Нараў, у пачатку вёскі можна ўбачыць на адным панадворку шмат цэмбравін, ці водных бетонных кругоў, як іх часта называюць. Кожны ў Трасцянцы ведае, што вырабам іх займаецца Міхась Астроўка. Шмат ўжо пабудавана тут калодзежаў дзякуючы яму. Раней было вялікае запатрабаванне на кругі з укосным заканчэннем, якія выкарыстоўваліся для пропускаў вады на дарогах. Тады Міхась Астроўка значна аблегчыў дарожным уладам будову і рамонт камунікацыйных шляхоў, бо не трэба было прывозіць цэмбравіны з іншых ваяводстваў. Міхась Астроўка з гонарам падкрэслівае, што гэта і ён будаваў шашу з Беластока ў Аўгустоў.

Цяпер у Міхася Астроўкі ўжо і сілы не тыя, што раней, і са здароўем не найлепш. Таму памагаюць яму і жонка, і сын, калі вернецца дамоў з Беластока.

У сваёй вёсцы Міхась Астроўка вядомы таксама некаторымі цікавымі ініцыятывамі. Вось, напрыклад, хаця б справа начной варты. У Трасцянцы больш 200 сем'яў, а вартаваць згадзілася не больш 20 гаспадароў. Адзін стары, другі малы, трэці хворы, чацвёрты быў звольнены, бо быў членам добраахвотнай пажарнай каманды. І так выходзіла, што некаторыя павінны былі варта[illegible] па два разы ў месяц.

На адным з вясковых сходаў у 1971 годзе Міхась Астроўка запрапанаваў наймаць вартаўніка і плаціць яму па 1500 злотых у месяц. Пасля доўгіх разважанняў прапанова гэта была прынята. Цяпер задаволена і вёска, якая аплочвае вартаўніка, і вартаўнік, які атрымоўвае немалую зарплату.

Другая прапанова Міхася Астроўкі датычылася электрычных стаўбоў, якія былі адсунуты ад кравэнжніка не на адзін метр, а на два метры. Ліпы таксама былі пасаджаны далей, чым гэта раней планавалася.

Па яго прапанове вызначана вясковая дарога на раку па простай лініі, а не так, як мела яна ісці — вінклем.

А Міхась Астроўка ж — гэта адзін з тых людзей, аб якіх, здавалася б, няма чаго пісаць, проста адзін са звычайных людзей вялікай вёскі Трасцянка, што ў Гайнаўскім павеце.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



*Міхась Астроўка працуе.*



Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

## Нашаніўская пара

**КАРУСЬ КАГАНЕЦ — ЧАСТКА II**

Творчасць Каганца не прадстаўляе сабой выключна багатай з'явы. Аднак паспрабаваў ён сваіх сіл у розных жанрах і ў некаторых дайшоў да сур'ёзных вынікаў. Творчасць Каганца можам падзяліць на:

паэзію
апавяданні
драматургію
публіцыстыку і карэспандэнцыю
жывапіс

**Паэзія.** Гэтым відам творчасці займаўся Каганец, мабыць, на працягу ўсяго свайго свядомага жыцця. Нягледзячы на гэта, ніколі не ўдалося яму выдаць паэтычнага зборніка. Вершы яго параскідваны па „Нашай ніве", „Беларускіх календарах", „Вольнай Беларусі" і „Беларусі". Многія вершы паэта да сёння не апублікаваны. Некаторыя загінулі ў час вайны. Першыя вершы напісаў Каганец у 1893 або 1894 годзе.

Будучы ў Мінску, я меў магчымасць пазнаёміцца з неапублікаванымі вершамі Каганца. У суме гэтых вершаў ёсць чатырнаццаць. Некаторыя з іх вельмі кароткія, а некаторыя налічваюць больш чым сто радкоў. Па сутнасці, усе вершы Каганца датаваныя. Пад першым вершам, які пачынаецца ад слоў „Ой, у полі вецер вее", напісана: „Кветня 1894 лета"; пад другім вершам напісана: „18 траўня 1894 л." Апошні верш з гэтага цыкла падпісаны 15 траўня 1896 г. Усіх вершаў у першым сшытку шэсць. Былі яны, бадай, напісаны рукой самога Каганца, які ўжываў у некаторых выпадках дзіўныя літары. Некаторыя з іх былі ўзяты з царкоўнаславянскай мовы, а некаторыя, бадай, прыдумаў сам аўтар. У гэтым жа сшытку знаходзяцца яшчэ чатыры вершы пад агульным загалоўкам „Народныя". Цяжка выказвацца ў гэтай справе катэгарычна, аднак вершы гэтыя, праўдападобна, не былі народнымі творамі, але былі створаны Каганцом, які выкарыстаў пры іх напісанні фальклорную традыцыю. Паасобныя вершы не датаваны. Толькі пад апошнім чацвёртым і вельмі доўгім вершам дапісана: „Каганец 19/22.VI.07 Ліссі-Норы".

Апрача гэтых вершаў, у Каганцовых паперах знаходзяцца лісткі з далейшымі яго чатырма вершамі. Над гэтымі вершамі ёсць паметка: „Запісала для зборніка яго твораў 30.V.22 Лёсік". Вершы гэтыя спецыфічны тым, што былі напісаны Каганцом у Мінскай турме. Першы верш пад загалоўкам „Купалле (лета)" падпісаны: „Мінская турма 1910 г. К. Каганец". Другі верш „Юрыя (весна)" — „Мінская турма 1910, К. Каганец". Трэці верш „Вялікі чацвер" — „Мінск (турма) 19.IV. 1911 г. К. К.". Чацвёрты верш без загалоўка. Пачынаецца ад слоў: „Устань, народ, прачухайся". Пад вершам паметка: „III.1911, Турма Мінск К.К.".

Да рэдка вядомых належаць таксама вершы, апублікаваныя ў 1928 годзе Касцяровічам („Савецкая Беларусь", 1928, нр. 17). Касцяровіч апублікаваў тры нядоўгія вершы Каганца. Усе яны звязаны супольнай тэматычнай ніццю. Прысвяціў іх аўтар птушкам: салаўю, жаваранку і ластаўцы.

Два вершы Каганца апублікаваў у 1927 годзе ў Вільні Дварчанін у кнізе „Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры".

Аб вершах Каганца, апублікаваных у дарэвалюцыйных часопісах, мы ўжо гаварылі.

Даволі цяжка сказаць, колькі вершаў напісаў Каганец. Праўдападобна, не зробім вялікай памылкі, калі скажам, што не многа. Ніколі не быў ён прафесіянальным паэтам і, мабыць, паэзію лічыў заўсёды заняткам другарадным. Пры гэтым аднак паэзія для Каганца не была нявіннай гульнёй у словы. Звязаў з ёю вялікія грамадскія і асабістыя надзеі. Няма аднак сумненняў, што вершы К. Каганца і па вартасці зместу і па вартасці формы ўступаюць значна вершам галоўных паэтаў-нашаніўцаў. Паэзія Купалы, Коласа, Багдановіча ўжо ў перыяд „Нашай нівы" была з'явай агульнанароднай, паэзія Каганца была, па сутнасці, толькі яго ўласнасцю.



 

 

БУДАЎНІЧЫЯ ПАРАДЫ

# ДОМ ДЛЯ ВАСЬМІАСАБОВАЙ СЯМ'І



Вось план жылога дома, які — паводле нашых меркаванняў — найлепш можа задаволіць сялян паўднёва-ўсходніх паветаў Беластоцкага ваяводства. Прасторная кухня (амаль 17 квадратных метраў) і тры добра распланаваныя пакоі, з якіх два маюць асобныя, незалежныя ўваходы праз сені. Могуць быць прызначаны яны для дарослых дзяцей, або для кватарантаў. Таму перш за ўсё рэкамендуем будаваць такі дом у наваколлі Белавежы, Нараўкі, Семяноўкі і Бандароў, ды ўсюды там, куды ў бліжэйшыя гады будзе напльіваць асноўная хваля турыстаў. З думкай аб турыстах можна адпаведна загаспадарыць яшчэ паддашша. План прадбачвае там адзін пакойчык. Аднак на гэтым паддашшы можна абсталяваць таксама другі даволі прасторны пакой і яшчэ застанецца шмат месца на падручную кладоўку-сховішча.

Пад адной палавінай будынка праектанты прапануюць зрабіць пограб, а другую засыпаць пяском. Здаецца нам, што лепш было б і другую частку пограба адпаведна загаспадарыць. Можна там абсталяваць кацёл цэнтральнага абагравання (уваход непасрэдна з кухні праз люк у падлозе, забяспечаны накрыўкай), склад вугалю або коксу, ды ўрэшце гэта памяшканне магло б служыць як цямніца для вырошчвання пячарак. Другая частка пограба была б тады халоднай, і былі б там спрыяльныя ўмовы для перахавання бульбы, яблык, агародніны і мяса, а таксама фруктовага віна, сокаў і іншых салодкіх зімовых запасаў.

Пабудаваць такі дом можна з чырвонай і белай цэглы, або з бетонных ці вапнавых блокаў, а таксама з пустакоў тыпу „альфа". Строй — з бэлек тыпу „Т-27" або „Клейна", дах — высокі, кроквы і латы — драўляныя. Фундамент — з цэменту і гравію або з каменя. Дах — крыты этэрнітам або чарапіцай.

Пад будову трэба прыблізна 104 квадратныя метры плошчы.

Прадбачваецца абсталяванне для водаправода, каналізацыі, электрасілы і цёплай вады. Ёсць магчымасць пабудовы абсталявання цэнтральнага абагравання, але гэта трэба ўзгодніць у час пакупкі праекта.

Жадаем поспехаў у будове!

**М. Н.**




RZUT PIWNIC




RZUT PODDASZA




RZUT PRZYZIEMIA




PRZEKRÓJ

PROGRAM UŻYTKOWY

| | | |
|---|---|---|
| 1. | PIWNICA | 42,10 m² |
| 2. | SIEŃ | 9,27 m² |
| 3. | POKÓJ | 15,80 m² |
| 4. | POKÓJ | 14,87 m² |
| 5. | KUCHNIA | 15,80 m² |
| 6. | PRZEDSIONEK | 2,70 m² |
| 7. | SPIŻARNIA | 2,70 m² |
| 8. | UMYWALNIA | 4,40 m² |
| 9. | POKÓJ | 17,80 m² |
| 10. | POKÓJ NA PODDASZU | 18,90 m² |

## Куток практычных ведаў




### НАШ БІЯЛАГІЧНЫ ГАДЗІННІК

Чаму адны адчуваюць стомленасць і неахвоту да працы адразу пасля снедання?.. Чаму іншым найлепш працуецца якраз рана, а пад вечар хочацца толькі аднаго... спаць?

Дактары кажуць, што прычына гэтага ў нерэгулярным спосабе жыцця. Вядома, што ніводзін орган не працуе таксама рэгулярна на працягу 24 гадзін, а кожны працуе ў іншым рытме. Напрыклад, людское сэрца і крывяносныя сасуды найслабей працуюць а 4 раніцы. Праца іх ад гэтай гадзіны паступова ўзрастае і пачынае спадаць толькі пасля 21 гадзіны. Найбольшая цеплыня цела наглядаецца паміж гадзінамі 9—12. Утрымоўваецца яна на гэтым самым больш-менш узроўні да гадзіны 18, а пасля пачынае паступова спадаць. Страўнік жа найбольш інтэнсіўна працуе на працягу першай паловы дня, а ныркі — пад вечар.

Змены такога біялагічнага рытму, зразумела, уплываюць на нашу здольнасць да працы на працягу сутак. Наймацнейшымі мы наогул з'яўляемся паміж гадзінамі 8-12 і пасля поўдня ў гадзінах 14-17. Найслабейшыя ж — паміж 3-4 раніцы і ў гадзінах 12-14. Прымаючы пад увагу рытм працы страўнікавай сістэмы, вынікае, што ў першай палове дня ежа чалавека павінна быць багата бялком і тлушчам, а ў другой — у ёй павінна знаходзіцца больш цукру. Снеданне павінна быць па колькасці ежы найбольш сытнае, а вячэра вельмі скромная.

Чаму ж людзі, якія якраз раніцай, калі рытм крывяноснай і страўнікавай сістэмы ўзмацняецца, бываюць стомленыя? Таму што кожны механізм, якім з'яўляецца сістэма чалавека, працуе інакш. Напрыклад, чалавек, у якога нізкі ціск крыві, дасягае адпаведнага ўзросту дапльіву крыві, якая вызваляе энергію не а гадзіне, скажам, 9 раніцы, а каля поўдня, чалавек жа, у якога высокі ціск крыві, адчуе стомленасць падвечар.

Акрамя таго, наша псіхіка, гэта значыць і наш біялагічны гадзіннік, дастасоўваецца да пэўных умоў. Паўсюдна гавораць аб прывычках, аб так званых умоўных рэфлексах. Калі хтосьці заўсёды працуе ўначы, дзень для яго будзе найлепшы для сну і адпачынку. Але гляньце толькі на таго, хто з дзённай працы пяройдзе на начную! Пакуль яго рытм шматлікіх біялагічных працэсаў зменіцца, ён будзе стомлены, будзе дрэнна спраўляцца на рабоце.

А што будзе, калі гэты рытм мы будзем змяняць пастаянна? Напрыклад, раз будзем доўга працаваць вечарам, іншым разам устанем рана і рана ляжам спаць, раз будзем снедаць а 5 раніцы, а на наступны дзень толькі а 9 гадзіне знойдзем час на снеданне. Тады арганізм, які падаем мы пастаянным зменам, не можа працаваць спраўна.

Таму, калі мы хочам быць здаровымі, неабходна прымаць пад увагу правы нашага біялагічнага рытму. З „гадзіннікам у руках" трэба сачыць за гадзінамі снедання, абеду, вячэры, за гадзінамі працы і адпачынку.

**Эскулап**




Да 1955 года англійская разведка мела нядрэнную агентуру ў міністэрстве замежных спраў ФРГ. Але яна ўвесь час шукала магчымасці папаўнення сваёй агентурнай сеткі. Так, у 1956 годзе заходнеберлінская рэзідэнтура СІС правадзіла аперацыю па ўладкаванню свайго агента ў МЗС ФРГ. Наогул у многіх звеннях дзяржаўнага апарату ФРГ былі агенты СІС. Англійскія разведчыкі і іх агенты таксама вялі актыўную работу па апрацоўцы японскіх дыпламатаў за граніцай. Справа ў тым, што СІС з прычыны моўнага бар'ера, сацыяльных ўмоўнасцей і некаторых іншых прычын адчувала цяжкасці ва ўстанаўленні кантактаў з японскімі службовымі асобамі ў самой Японіі. Таму было вырашана арганізаваць работу з дыпламатычнымі прадстаўнікамі Японіі ў трэціх краінах. Пры гэтым, у прыватнасці, рэкамендавалася выкарыстоўваць павышанае пачуццё адзіноты, што перажывалі японцы за граніцай.

— Вы многія гады працавалі ў англійскай разведцы і, відаць, можаце праліць святло на тое, як выкарыстоўвае СІС розныя катэгорыі англійскіх грамадзян у падрыўной дзейнасці супраць Савецкага Саюза і іншых краін сацыялістычнай садружнасці.

— У прэсе ўжо друкаваліся матэрыялы аб тым, як СІС у сваіх мэтах выкарыстоўвае радыёкарпарацыю Бі-Бі-Сі, многіх журналістаў англійскіх газет і часопісаў, якія спецыялізуюцца на арганізацыі антысавецкіх кампаній і правакацыйных выдумак супраць сацыялістычных краін. Гэта зусім правільна, хоць журналісты толькі адна з катэгорый асоб, якіх выкарыстоўвае разведка. СІС ахвотна схіляе „да сваёй веры" прадстаўнікоў розных экспартна-імпартных фірм. Добра вядома ў гэтым плане справа англійскага „бізнесмена" Грэвіла Віна. Разведка спрабуе таксама вербаваць агентуру сярод турыстаў, якія накіроўваюцца ў сацыялістычныя краіны. І што характэрна, СІС прыцягвае для сваёй работы людзей без якіх-небудзь узгаднення з іншымі дзяржаўнымі ведамствамі. Аднак выкарыстанне англійскай разведкай такіх асоб, як, напрыклад, дыпламатаў усіх рангаў, англійскіх супрацоўнікаў ААН, патрабуе ў адпаведнасці з дырэктывамі СІС узгаднення з МЗС Вялікабрытаніі, хоць, як правіла, яно носіць чыста фармальны характар. Наогул, парадак вярбоўкі або выкарыстання пералічаных мною афіцыяльных асоб, а таксама грамадзян Канады, Індыі, Пакістана і іншых краін, якія ўваходзяць у Брытанскую садружнасць нацый, пунктуальна вызначан у інструкцыях Інтэлідженс сэрвіс, у прыватнасці, у пастаянна дзеючай інструкцыі, якая носіць назву „Одэрбук".

Дзейнасць Блейка дала магчымасць, як правільна ацэньваў галоўны суддзя Англіі Паркер, звесці на нішто многія аперацыі „псіхалагічнай вайны" і шпіянажу супраць СССР і сацыялістычных краін. Гэта і былі тыя „намаганні англійскага ўрада", пра якія вёў гаворку лорд Паркер.

— Што вы перажылі, Джордж, як вы сябе адчувалі ў турме?

Блейк задумваецца і, не спяшаючыся, гаворыць:

— Работа разведчыка заўсёды рызыка. Я ведаў, на што іду і ў імя чаго. Я да канца быў упэўнены ў правільнасці выбару. Гэта надавала мне сілы і ў камеры лонданскай турмы. Перш за ўсё я паставіў перад сабой задачу захаваць разумовае і фізічнае здароўе, каб урэшце ўцячы і працягваць барацьбу. Я дабіўся дазволу турэмных улад удасканальваць арабскую мову, займаўся фізічнымі практыкаваннямі па сістэме ёгаў...

Будучы за кратамі, — працягвае ён, — я заўсёды цвёрда ведаў, што сябры не забудуць мяне. У першую чаргу, безумоўна, мая маці. Яна, як і раней, засталася для мяне самым блізкім і дарагім сябрам. Калі мяне арыштавалі і аб'явілі прыгавор — сорак два гады, яна аддала ў хімчыстку мае касцюмы, потым прынафталініла іх і склала ў гардэроб. „Няхай рэчы чакаюць свайго гаспадара, — часта гаварыла яна сябрам. — Джордж вернецца на волю!" Моцная духам жанчына.

Я ўпершыню за ўсё сваё жыццё даю інтэрв'ю журналістам, — прызнаецца Блейк. — Ды гэта і зразумела. Аб цяжкай, самаадданай і разам з тым цікавай рабоце разведчыка людзі даведваюцца праз шмат гадоў, ды і то не заўсёды...

Мы думаем, што гэта, відаць, яго далёка не апошняе інтэрв'ю.

У заключэнне застаецца дадаць, што самаадданая дзейнасць таварыша Дж. Блейка была адзначана высокімі ўрадавымі ўзнагародамі — ордэнамі Леніна і баявога Чырвонага Сцяга.



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Тэлевізар у Спічках

У Спічках цяпер 12 тэлевізараў. Выходзіць, што кожны сёмы жыхар нашай вёскі мае тэлевізар. Аднак гэтага ўсё ж замала. Вёска ж налічвае 80 гаспадарак. Быць можа, праз некалькі год лік тэлевізараў у Спічках павялічыцца. А пакуль што многія жыхары Спічкоў марылі, каб купіць супольны тэлевізар на цэлую вёску і паставіць у тым будынку, дзе калісьці была пачатковая школа. Мары споўніліся ў гэтым годзе. У суботу 13 кастрычніка 1973 года Спічкі атрымалі тэлевізар. Палову заплаціла за яго добраахвотная пажарная ахова ў Спічках, а другую палову дала пажарная ахова з Бельска Падляшскага.

Тэлевізар паставілі ў будынку школы. Тут ёсць парты, на якіх можна сядзець. З першага дня ў школьным будынку сабралася многа людзей, усе з зацікаўленнем глядзелі праграму. Солтыс нашай вёскі сказаў, каб у час перадач панавала цішыня. На сценах паявіліся таблічкі: „Курэнне сурова забаронена" і „Просім захаваць чысціню". Жыхары захоўвалі парадак. Хто хацеў закурыць, выходзіў на двор і там курыў. Дзецям можна глядзець перадачы толькі да сёмай гадзіны трыццаці мінут вечара. Так што ў школе пануе дысцыпліна, якой усе павінны трымацца. Солтыс таксама забараніў тут іграць у карты.

**Васіль Асеннік,**
Спічкі

## Міхалоўская каса СОП

Уся дапамога дзяржавы ў галіне грашовых пазык адбываецца пры пасрэдніцтве СОП-у, які на пазыкавых умовах можа даць грошы на куплю добрага пасяўнога матэрыялу, штучных угнаенняў, нават на невялікія будовы, звязаныя з так званай сельскагаспадарчай прадукцыяй, інакш кажучы, будовы, патрэбныя для гаспадара.

СОП у Міхалове мае свой уласны будынак касы і гаспадарчы будынак. Развівае карысную дзейнасць у гмінах Міхалова і Шымкі. Міхалоўскі СОП у 1972 годзе на пазыкавых умовах даў грошы 2393 гаспадарам.

Як інфармуе кіраўнік СОП-у ў Міхалове (Беластоцкі павет) Мікалай Ваўрэнюк, які працуе тут ужо 19 год, за 1972 год сума выплачаных СОП-ам крэдытаў дасягнула 5 мільёнаў 155 тысяч злотых, гэта больш на 1 мільён 511 тысяч, чым было выплачана ў 1971 годзе.

„Шмат гаспадароў, — працягвае далей кіраўнік, — бярэ крэдыты на куплю штучных угнаенняў. Гэта пацяшальная з'ява. СОП на гэтую мэту ў 1972 годзе выдаў 896 тысяч злотых".

Вялікую папулярнасць сярод гаспадароў маюць уклады, прэміраваныя трактарам. 13 жніўня 1973 года адбылося ў нашым ваяводстве лясаванне трактараў. Пашанцавала Мікалаю Шмызе з гміны Шымкі, дзе ёсць аддзел міхалоўскага СОП-у. Выйграў ён новы трактар „Урсус Ц-330". У нашым ваяводстве гаспадары атрымалі 8 такіх трактароў.

Апрача пазыкавай дзейнасці СОП праводзіць акцыю ашчаднасці. Вялікая частка гаспадароў у гміне Міхалова разумее патрэбу ашчаднасці, як гаворыцца, кожнай залатоўкі. За мінулы 1972 год 15 мільёнаў 640 тысяч злотых уплацілі гаспадары на свае СОП-аўскія ашчадныя кніжачкі. План ашчаднасці ў 1972 годзе быў выкананы ў 107,2%.

**Павел Гутнік,**
Агульнаадукацыйны ліцэй у Міхалове

## Што чытаюць

У старакорнінскай школе шмат увагі прысвячаюць чытанню прэсы. Вучні гэтай школы добра разумеюць, што прэса з'яўляецца іх прыяцелем і дапаможнікам у вучобе. Найбольш у школе ёсць 73 падпісчыкі „Нівы". Тыднёвік гэты з'яўляецца дапаможнікам у вывучэнні роднай беларускай мовы. На наступны год кожны вучань выпіша „Ніву" адразу на цэлы год.

На занятках грамадзянскага выхавання вучні выкарыстоўваюць „Ніву", „Трыбуну Люду" і „Газету Беластоцкую". „Трыбуны Люду" ў школе ёсць 21 экз., а „Газеты Беластоцкай" — 29 экз.

У навучанні польскай мовы выкарыстоўваюцца „Пломык", „Пламычак", „Свершчык" і „Місь". Падпісчыкамі „Пламыка" з'яўляецца 25 вучняў, „Пламычка" — 32 вучні, „Свершчыка" — 23 вучні і „Міся" — 10 вучняў.

**В. С.,**
Стары Корнін

## Сажалка

Супрацьпажарны басейн у Дубічах Царкоўных мае сваю гісторыю. На паплавах калісьці была крыніца і грузалеўіна. Жыхары тут вырашылі капаць сажалку і выкапалі яе грамадскім чынам. А вады хоць адбаўляй — крыніца ж, і ў кожную пару года вада ёсць.

Прайшоў аднак нейкі час, басейн зарос дзе-ніdзе травою, дно зацягнула мулам.

Дубіцкія пажарнікі вырашылі прачысціць сажалку, берагі ацэментаваць, басейн пашырыць, паглыбіць і абгарадзіць гэта месца. Работа ідзе.

**М. Панфілюк**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

## Што з поштай у Юшкавым Грудзе

АДКАЗВАЕ:

Obwodowy Urząd Pocztowo-Telekomunikacyjny Białystok 1.

W odpowiedzi na pismo Wasze, dotyczące notatki w czasopiśmie „Niwa", omawiającej ciężkie warunki pracy zatrudnionych w urzędzie pocztowo-telekomunikacyjnym Juszkowy Gród pracowników, ze względu na małą powierzchnię użytkową tej placówki, wyjaśnia się następująco:

Budynek, w którym mieści się placówka pocztowa w Juszkowym Grodzie stanowi własność resortu Łączności i jest zbyt szczupły, aby można było zwiększyć w nim powierzchnię użytkową dla potrzeb poczty.

W chwili obecnej w tymże budynku zamieszkuje także naczelnik urzędu, zajmując lokal o powierzchni 18 m².

Obwodowy Urząd Pocztowo-Telekomunikacyjny zdając sobie sprawę z trudnych warunków pracy tej placówki i w trosce o poprawę tych warunków, zwrócił się z pismem Nr AG. 231 z dnia 30 września 1972 r. do Prezydium Powiatowej Rady Narodowej w Białymstoku o przydzielenie lokalu dla UPT Juszkowy Gród z chwilą likwidacji Gromadzkiej Rady Narodowej w tejże miejscowości. Lokal ten odpowiadałby w pełni wymogom, stawianym placówkom pocztowym, po przeprowadzeniu adaptacji.

Na pismo to nie otrzymaliśmy żadnej odpowiedzi z Wydziału Budżetowo-Gospodarczego Prezydium PRN w Białymstoku i jak nam wiadomo lokal ten został przydzielony dla Ośrodka Zdrowia.

Obecnie dowiedzieliśmy się, że w Juszkowym Grodzie od dłuższego czasu stoi próżny i niewykorzystany lokal po byłej „Agronomówce". W związku z tym występujemy do Prezydium PRN w Białymstoku z wnioskiem o wydzierżawienie tego lokalu poczcie i będziemy niezmiernie wdzięczni Redakcji „Niwa", gdyby zechciała sprawę naszą poprzeć u odnośnych czynników, w których gestii jest pozytywne wniosku naszego załatwienie.

Nawiązując do wypowiedzi autora notatki jakoby pracownicy UPT Juszkowy Gród deklarowali czyn społeczny w rozbudowie placówki, a OUPT odpowiedział rzekomo, że brak na ten cel środków finansowych, stwierdzamy, że żadna deklaracja pracowników do nas nie wpłynęła, jak też i nie udzielaliśmy żadnej odpowiedzi.

**Dyrektor OUPT**
**Janina Symaniukisztis**

Ад рэд. Выслалі мы ліст да кіраўніка бюджэтнагаспадарчага аддзела Прэзідыума ПРН у Беластоку, у якім падтрымліваем просьбу ОУРТ — памагчы атрымаць пустую агранамоўку на памяшканне для пошты.

## ПАРНАСік

Чытальніцкая літсупольна на неагарантаваных паях

### СТАРТ

Многа год я пражыў
Ў роднай вёсцы Спічках,
Я тут ў школу хадзіў
У малодшых гадах.

Часта плакаў тады,
Калі двойку дастаў,
— Ты не плач, мой малы, —
Мяне пан суцяшаў.

А ўжо потым пайшоў
Я вучыцца далей,
Сабе школу знайшоў —
Беларускі ліцэй.

Ды вось тут я пачаў
Многа вершаў чытаць.
Многа працы ўкладаў —
I свае стаў складаць.

*Васіль Асеннік*
Спічкі (Бельскі беларускі ліцэй)

*

*Чытаю верш —*
*служу малебень*
*паэта слову.*
*Слову — адлюстраванню*
*залётнага моргання зvёзд,*
*адлюстраванню,*
*літаній прастора.*
*Чытаючы сучасную*
*паэзію,*
*як з цацкай.*

*Яўгень Семянюк*
Бельскі беларускі ліцэй

### ВОСЕНЬ

Ужо восень наступіла
Жоўта стала на двары,
Ужо і птушкі не спяваюць,
Ды прыгожа у бары.

Ўжо і бусел не ступае
Па балоце за сялом,
I ўсе дзеці добра знаюць,
Паляцеў ён з жураўлём.

Поле ўжо не залаціцца
Так, як летам, калі жнуць.
Бульбы людзі не капаюць,
Сеюць жыта і аруць.

*Галіна Конах*
Гайнаўскі беларускі ліцэй

## Сэрцайка — Сардэчныя тайны

Дарагое „Сэрцайка"!

Мне 17 год. Жыву я ў вёсцы, але вучуся ў сярэдняй школе, у горадзе. У школу штодзень езджу аўтобусам. Гэтым жа аўтобусам ездзіць і Віця, з якім я пазнаёмілася ў пачатку школьнага года. Ён вучыцца ў апошнім класе тэхнікума. Спачатку я адносілася да яго, як да добрага сябра, вельмі сімпатычнага хлопца, які культурна адносіцца да мяне і ўвогуле да дзяўчат. Потым ён сказаў, што мяне кахае, і наша сяброўства перайшло ў вялікае каханне. Мы часта сустракаліся. У нядзелю Віця прыязджаў да мяне на вёску. Я пераканалася, што каханне Віці сапраўднае, звязана толькі з пачуццямі. Але нядаўна Віця ўжо перастаў даязджаць да школы. Жыве ў горадзе, а я даязджаю далей, і мы не можам так часта спатыкацца. Да таго Віця не прыехаў да мяне ў нядзелю. Мне вельмі сумна. Пасля нядзелі мы спаткаліся, Віця вёў сябе так, як заўсёды. Сказаў, чаму не прыехаў у нядзелю: было вельмі многа матэрыялу на панядзелак, бо гэта ўжо апошні год вучобы. Не ведаю, ці гэта праўда. Я ўсё думаю аб гэтым, баюся, каб Віця мяне не пакінуў. Гэта і ў вучобе перашкаджае, але не магу адагнаць ад сябе гэтых думак. Можа, ён не хоча ўжо са мной хадзіць, але нашто час ад часу спатыкаецца, ды і лісты піша да мяне дадому? Можа ты, „Сэрцайка", падкажаш, што рабіць?

**Міра з Гайнаўшчыны**

Міра! Непатрэбна хвалюешся. Няма тут ніякіх падстаў, каб Віці не верыць. Па-мойму, між вамі ўсё ў парадку. Ён жа ў апошнім класе, працы сапраўды мае шмат і кожная гадзіна яму дарагая. У цябе таксама часу не замнога, калі ты вучышся, дык не трць яго на недарэчныя роздумы. Галоўная справа для вас — вучоба. Ёй прысвяці галоўную ўвагу. Школьны год мігам праляціць. Настануць канікулы і тады вы абое будзеце мець час, каб часцей спатыкацца.

**„Сэрцайка"**

## Наша пошта

**Ніна Гаўрылюк,** Бельск. Вершы можна друкаваць. Найлепшы з прысланых чатырох — гэта „Песня і ўсмешка". Адносна прозы — прабуйце далей, ды пазбягайце нагрузкі лішніх, часта выпадковых слоў. Пры наяўнасці псіхалагічных схільнасцей у творчасці, якія ў вас выяўляюцца, чым менш слоў, тым лепш. А цяпер адказы на вашы пытанні. 1. „Што рабіць, каб не карыстацца слоўнікам?" Але ж, слоўнік для пішучага — як вада, як паветра! Чым чалавек разумнейшы, тым часцей заглядае ў слоўнік. У ніякім выпадку не раім пазбягаць слоўніка. Раім яшчэ чытаць беларускую паэзію і прозу — гэта дасканалы спосаб навукі. 2. „Хацела б пісаць пра сённяшняе жыццё вёскі ці горада". Мы як найбольш за. Можна пісаць у форме газетных інфармацый, а можна і апавяданнем. Мы вельмі высока цэнім публіцыстычныя формы — інфармацыі, артыкулы, рэпартажы. Іх людзі надта ж ахвотна чытаюць. 3. „Як заспакоіць патрэбу пісання?" Пісаць. А аб чым? Аб усім, аб добрых і дрэнных падзеях, аб людзях і іх працы.

**Павел Гутнік,** Агульнаадукацыйны ліцэй у Міхалове. „Адказ Яўгенію Семянюку" надрукуем. Вельмі ж рады, што пішаце многа і добрых, добрай беларускай мовай напісаных інфармацый з жыцця свайго ліцэя. Сардэчнае дзякуй.

**Анна Дзянісюк,** Плёскі. „У гадавіну смерці..." з часам надрукуем.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Mężczyzna, który się podoba" (franc.), 11—12. „Tydzień szaleńców" (rumuński), 13—14. „Wydra pana Grahama" (angl.), 15—16.

**Чаромуха**
„Jesteś już mężczyzną" (USA), 11—12. „Lampy naftowe" (czeski), 15—16.

**Кляшчэлі**
„Fraulein doktor" (jugosł.), 11—12. „Śledztwo skończone, proszę zapomnieć" (włoski), 13—14. „Abel twój brat" (polski), 15—16.

**Нараўка**
„Anatomia miłości" (polski), „Księżniczka Czardasza" (węgierski), 12—16.

**Нарва**
„Morderca samotnych kobiet" (NRD), „Tylko wtedy gdy się śmieję" (angl.), 12—16.

**Чыжы**
„Zaproszona" (franc.), „Ślub bez obrączki" (czeski), 12—16.

**Дубічы Царкоўныя**
„Nieznany" (polski), „Dzień ostatni, dzień pierwszy" (radz.), 12—16.

**Арэшкава**
„Staroświecki dramat" (radz.), „Brylanty pani Zuzy" (polski), 15—16.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Zabijcie czarną owcę" (polski), „Naszyjnik dla mojej ukochanej" (radz.), 12—16.

**Райск**
„Niech bestia zdycha" (franc.), „Jezioro osobliwości" (polski), 12—16.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Zdobycz" (franc.), 15—16.

**Міхалова**
„Zdobycz" (franc.), 11—12. „Smak zemsty" (hiszpański), 13—14. „Niebieski żołnierz" (USA), 15—16.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Kajtek i nowy braciszek" (węgierski), „Poszukiwany — poszukiwana" (polski), 12—16.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Pogromca zwierząt" (rumuński), 11—12. „Białe słońce pustyni" (radz.), 13—14. „Ja wam pokażę" (NRD), 15—16.

**Мілейчыцы**
„Krwawa bajka" (jugosł.), 11—12. „Telegram" (radz.), 13—14. „Sekret" (polski), 15—16.

Ніва

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł, kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911.

BZGraf. Nakład 7.669 K-3

# БАРАДА

Вырашыўшы падагрэць цікавасць мілых жанчын да сваёй асобы, я адпусціў бараду. Вынік перавысіў мае самыя смелыя спадзяванні. Я пачуў процьму ацэнак, парад, пытанняў і параўнанняў.

— Якая краса! Вам вельмі да твару барада, — сказала Марыя Іванаўна.

— Якая гадасць! Навошта вы гэта зрабілі? — усклікнула Вольга Пятроўна.

— Як ні дзіўна, барада вас малодзіць, — заўважыла Ніна Васільеўна.

— Гэта барада састарыла вас на дваццаць год... — дакарала Вера Мікалаеўна.

— Было б лепей, калі б яна была больш пышнай, — параіла Зоя Львоўна.

— Вам лепш падыходзіла б клінцам, — падказала Клаўдзія Андрэеўна.

— Вам трэба яе крыху падфарбаваць, — вырашыла Галена Маркаўна.

— Астаўце лепш адны вусы... — заявіла Ірына Раманаўна.

У мяне пыталі, ці доўга я яе адрошчваў, ці не чэшацца яна, ці горача ў барадзе летам, ці часта даводзіцца яе падстрыгаць, як аднеслася да барады мая жонка...

Параўнанні насілі літаратурны і нават гістарычны характар. На жаль, я пачаў падлік не адразу, але ўсё ж налічыў дваццаць шэсць Хэмінгуэяў, чатырох Заля, двух Чэхавых, трох Генрыкаў Чацвертых.

Некаторыя знаёмыя раптам змаўкалі на паўслове, задуменна праводзілі далонню па сваім голым падбародку і, звяртаючыся не столькі да мяне, колькі да саміх сябе, запытвалі: „А ці не адпусціць і мне?.."

Я нашу бараду вось ужо паўгода, але цікавасць да маёй асобы, я чую, падае. Прадбачваю, што ўрэшце яна пачне канчаткова падаць. На гэты выпадак у мяне сёе-тое назапашана. Дамы нават і не падазраюць, што я задумаў. Я яе... зброю.

**Уладзімір Ліўшыц**

*ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!*

*— Я чакаю сумленнага бою.*

### ХТО НЕ П'Е

На дакаранне сваёй жонкі п'яны муж апраўдваецца:

— Ды хто ж не п'е, гэтай гарэлкі? Хіба той, у каго грошай няма, ды яшчэ сава: удзень яна не бачыць, а ўначы магазін закрыты.

# ТАЛЕРАЧКА

Аматар старажытнасцей зайшоў у антыкварную краму і, не знайшоўшы на паліцах нічога цікавага, прыкмеціў, што кошка ўладальніка крамы хлёбае малако з талерачкі, якая, як ён акрэсліў адразу, мае велізарную вартасць. Пагладзіўшы кошачку па шэрсці, калекцыянер спытаў гаспадара, ці не прадасць ён яе.

— Калі ласка, — адказаў гаспадар, — такому паважанаму знаўцы і пастаяннаму кліенту адмовіць не магу. Яна каштуе 50 долараў.

— Калі ласка, вось грошы. Заадно я вазьму і талерачку, з якой кіска п'е малачко, — яна ж да яе прывыкла!

— Што вы! Гэта талерачка каштуе пяць тысяч долараў!

— Чаму ж тады вы наліваеце ў яе малако для кошкі?

— Таму, што такім спосабам я прадаў ужо 137 кошак...

# НІЎКА

*— Я непісьменны, доктар...*

### ПАМЫЛКА

Сярод ночы ў адзін з нумароў гасцініцы стукае дзяжурны.

— Уставайце! У гасцініцы пажар...

— Пажарнік жыве ў суседнім нумары, — пачулася з-за дзвярэй сонны голас.

### ПЕРАПЛЮНУЎ

Размаўляюць двое пра сабак.

— Ты ведаеш, мой Тузік можа да дзесяці лічыць.

— Гэта я даўно ведаю.

— Адкуль?

— Мой Бобік пра гэта мне расказаў.

*Зноў я пераблытаў закліканне.*

# СПОВЕДЗЬ ПАДХАЛІМА

„Падхалім ды падхалім..." —
Шэпчуцца за вочы...
Пабываць бы ў скуры ім
У маёй аднойчы.

Паспыталі б „каравай",
А калі б прыпекла,
Зразумелі б, што не рай
У мяне, а пекла.

Што не рай — не гавары,
Можа быць прамашка:
Падхалімам быць, сябры,
Цяжка, вельмі цяжка.

Тут асобы трэба нюх,
Каб не быць на мелі:
Устаў начальнік сёння з двух,
А ці толькі з левай?

І асобы мець сакрэт
На любое выйсце —
Як зайсці у кабінет
І назад як выйсці.

Трэба ведаць шчэ між тым
(Каб не змог надзьмуцца),
Як сагнуцца перад ім
І як разагнуцца.

Толькі гэта іншы раз
Мне вылазіць бокам...
Запытаць хачу я ў вас:
Хіба ж гэта лёгка?

**Уладзімір Правасуд**

**...Зайздроснік не змагаўся за сваё шчасце. Яму хапала чужых няшчасцяў.**

**...Граючы на нервах, не траціў пачуцця такту.**

# ГУМАР З

## Абое разумныя

У аднаго пана быў парабак, звалі яго Іванам. Вось пан за штосьці пасварыўся з суседнім панам, і пачалі судзіцца. Прыйшла пану павестка ехаць на суд, пан і кажа:

— Іван, запрагай коней, паедзем у горад на суд.

Запрог Іван коней, пад'ехаў пад ганак, пан сеў — і паехалі. Едуць палянкаю, а пану з думкі не сходзіць суд, хто ж выйдзе пераможцам, хто разумнейшы між імі, а далей і кажа:

— Іван, а хто, па-твойму, разумнейшы — ці пан Траханоўскі, ці я?

А Іван адказвае:

— Ды ён, пане, дурнейшы яшчэ ад вас, а як і не дурнейшы, то такі, як вы!

### З ЧАГО ДВОЙКА

Калі прыйшоў Васілёк са школы, бацька ўзяў дзённік у рукі і спытаў:

— Дык з чаго двойка?

Васілёк перапужана сказаў:

— З чарніла.

# МІНІБАЙКІ

## Метад доказу

Нейкі Філосаф, убачыўшы Дурня, які лупцаваў свайго Асла, усклікнуў:

— Устрымайся, сын мой, малю цябе, устрымайся. Той, хто ўжывае насілле, ад насілля ж і гіне.

— Гэта якраз тое, што я прабую ўбіць у галаву гэтай скаціне, — адказаў Дурны, працягваючы рупліва дубасіць жывёліну. — Ён мяне ўдарыў.

„Несумненна, — разважаў Філосаф, працягваючы свой шлях, — мудрасць дурняў не менш глыбокая і блізкая да ісціны, чым наша, але, я бачу, іх метад доказу куды больш пераканаўчы".

*— Не ўяўляю, як гэта магло атрымацца...*

*НОВЫЯ ПАТЭНТЫ*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Веры і Марысі Манцюк з Мікуліч змяшчаем савецкую песню

# МАМА МОЯ

**Слова Владимира Харитонова**
**Музыка Александра Аверкина**

Помню бои,
Помню жестокие ливни.
Слышу во сне,
Как я кричу из огня:

Мама моя,
Сколько живу я на свете,
Ждешь-не дождешься меня!

Я не забыл,
Как разлучали дороги,
Ночью и днем
Грелась кострами земля.

Мама моя,
Сколько живу я на свете,
Ждешь-не дождешься меня!

Где бы ни шел,
Всюду была ты со мною.
Жил и живу,
Родине верность храня.

Мама моя,
Сколько живу я на свете,
Ждешь-не дождешься меня!

Рельсы гудят,
Снова тебя покидаю.
На проводах
Ветер играет звеня.

Мама моя,
Сколько живу я на свете,
Ждешь-не дождешься меня!

# КУРЁЗЫ

### ПА ЗАКОНУ ІСЛАМА

На думку галоўнага міністра Паўночна-Заходняй пагранічнай правінцыі Пакістана Маўляна Муфці Махмуда, дзеючая мера пакарання (шасцімесячнае турэмнае зняволенне) за злоўжыванне спіртнымі напіткамі недастаткова суровае і не спыняе прыхільнікаў „зялёнага змея". Мусульманін Махмуд прапанаваў караць сваіх адзінаверцаў, якія пакланяюцца Бахусу, 80 ударамі бізуна, як таго патрабуе іслам. Пакістанцы — п'ючыя і няп'ючыя — ажыўлена абмяркоўваюць гэту прапанову.

### КВАДРАТНЫЯ МЕТРЫ МАСТАЦТВА

Амерыканскі мастак Дж. Дэвіс нечакана стаў знакамітасцю, напісаўшы ўсяго адну карціну. Яна заняла ўсю плошчу перад гарадскім музеем выяўленчага мастацтва ў Філадэльфіі — 3.500 квадратных метраў. Карціна ўяўляе сабой спалучэнне рознакаляровых палос. На яе стварэнне пайшло 2.000 літраў фарбы. Масляная фарба добра пранікла ў асфальт, і аўтар мяркуе, што карціна захаваецца не менш пяці гадоў. Мяркуюць, што зайздросныя канкурэнты Дэвіса размалююць падобным чынам футбольнае поле або мясцовы аэрадром.

### АРОЛ АТАКУЕ... ПЛАНЕР

Непадалёку ад Марселя буйны арол атакаваў планер, на якім французскі пілот П'ер дэ Бокэ выконваў фігуры вышэйшага пілатажу. Раззлаваная птушка нечакана напала на планер і нанесла яму даволі сур'ёзныя пашкоджанні. Пілоту з вялікай цяжкасцю давялося ўцячы ад праследавання і зрабіць пасадку.

# МІЖ НАМІ

**Спярша вянком увенчваюць, а ўжо потым яго ўскладаюць. Але бывае і наадварот.**